**Дэпартамент па архівах і справаводству**
**Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь**

**Аддзел выкарыстання**
**дакументаў і інфармацыі**

# КАЛЯНДАР
# ЗНАМЯНАЛЬНЫХ І ПАМЯТНЫХ ДАТ
# ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

НА 2014 ГОД

Мінск, 2013

**1040** гадоў назад (974) паводле Віцебскага летапісу кіеўскай княгіняй Вольгай заснаваны Віцебск

**995** гадоў назад (1019) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Брэст (Берасце, Бярэсце)

**970** гадоў з пачатку будаўніцтва (1044) у Полацку Сафійскага сабору (будаўніцтва скончана ў 1066 г., паводле іншых звестак пабудаваны ў 1050 – 1060 гг.)

**970** гадоў з часу княжання (1044 – 1101) у Полацку Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем

**970** гадоў назад (1044) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Навагрудак (Новогород, Новогородок)

**955** гадоў назад (1059) у летапісах упершыню ўпамінаецца Копысь як горад Полацкага княства (цяпер гарадскі пасёлак у Аршанскім раёне Віцебскай вобласці)

**910** гадоў з часу першага летапіснага ўпамінання (1104) аб Мінску як цэнтры Мінскага княства

**910** гадоў з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай (свецкае імя Прадслава) (каля 1104 – 1173), беларускай асветніцы, ігуменні Полацкага манастыра св. Спаса

**855** гадоў назад (1159) у летапісах упершыню ўпамінаецца Чачэрск

**785** гадоў назад (1229) заключаны гандлёвы дагавор Смаленскага, Віцебскага і Полацкага княстваў з Рыгаю і вострававам Готланд (“Смаленская гандлёвая праўда”)

**740** гадоў назад (1274) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Капыль

**730** гадоў назад (1284) войскі літоўскага князя Рынгальда разграмілі мангола-татарскія войскі каля вёскі Магільна (цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці)

**600** гадоў назад (1414) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Глыбокае

**575** гадоў назад (1439) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Лепель

**570** гадоў назад (1444) Гродна атрымаў поўнае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**560** назад (1454) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Стары Мядзел (цяпер г. Мядзел Мінскай вобласці)

**520** гадоў назад (1494) горад Высокае атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права

**520** гадоў назад (1494) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Косава (Косаў)

**515** гадоў назад (1499) Мінск атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права

**510** гадоў з часу ўтварэння (1504) Полацкага ваяводства

**510** гадоў назад (1504) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца в. Будслаў (Буда, Буцлаў, Будцлаў) Мядзельскага раёна

**500** гадоў назад (1514) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаюцца Мёры

**485** гадоў з часу ўвядзення (1529) Першага Статута Вялікага княства Літоўскага, збора законаў айчыннага феадальнага права

**480** гадоў назад (1534) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Сянно

**445** гадоў назад (1569) Радашковічы і Дзісна атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права

**440** гадоў з часу заснавання (1574) у Вільні друкарні братоў Мамонічаў (дзейнічала да 1623 г.)

**440** гадоў з часу выдання (1574) Сымонам Будным у мяст. Лоск каля Валожына Новага Запавету з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі

**435** гадоў назад (1579) Гродна стаў рэзідэнцыяй караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Стэфана Баторыя

**425** гадоў назад (1589) Кобрын і Пружаны атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права

**415** гадоў назад (1599) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Вілейка

**385** гадоў назад нарадзіўся Сімяон Полацкі (сапр. Пятроўскі–Сітніяновіч Самуіл Емяльянавіч) (1629 – 1680), беларускі і рускі грамадскі і царкоўны дзеяч, пісьменнік, публіцыст і педагог

**380** гадоў назад (1634) Чавусы і Бешанковічы атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права

**380** гадоў з дня нараджэння Казіміра Лышчынскага (1634 – 1689), беларускага мысліцеля

**315** гадоў з пачатку (1699) выдавецкай дзейнасці беларускага асветніка Іллі Капіевіча (Капіеўскага) у Амстэрдаме (Галандыя)

**290** гадоў назад (1724) створана Нясвіжская капэла Радзівілаў (існавала да 1809 г.)

**285** гадоў назад (1729) заснавана Пінская друкарня (існавала да 1746 г.)

**245** гадоў назад (1769) у в. Бабоўня (Капыльскі раён) заснавана суконная мануфактура

**245** гадоў з пачатку дзейнасці (1769) у Гродна тэатра Тызенгаўза (дзейнічаў да 1780 г.)

**245** гадоў з часу заснавання (1769) шклозавода "Залессе" (першапачаткова існаваў як шкляная мануфактура ў мяст. Ілля, з 1855 г. пераведзена ў в. Залессе)

**240** гадоў назад (1774) у Гродна створана музычна-тэатральная школа Тызенгаўза (існавала да 1780 г.)

**220** гадоў назад нарадзіўся Баршчэўскі Ян (1794, паводле іншых крыніц 1790, ці 1796 – 1851), беларускі і польскі пісменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры

**220** гадоў з пачатку паўстання (1794) у Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі

**220** гадоў з часу ўтварэння (1794) Віленскага генерал-губернатарства (існавала да 1912 г.)

**210** гадоў з дня нараджэння Гарбачэўскага Мікіты Іванавіча (1804 – 1879), беларускага архівіста, мовазнаўца, педагога

**210** гадоў назад (1804) завершана будаўніцтва Агінскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Дняпра

**205** гадоў з часу заснавання (1809) у Магілёве першай у Беларусі метэаралагічнай станцыі

**205** гадоў назад (1809) у Магілёве на базе галоўнага народнага вучылішча адкрыта першая гімназія

**200** гадоў назад нарадзіўся Гашкевіч Іосіф Антонавіч (1814 – 1872), дыпламат, мовазнаўца, даследчык Японіі і Кітая

**190** гадоў з часу выдання (1824) "Беларускага архіва старажытных грамат", першага зборніка дакументаў па гісторыі беларускіх зямель

**185** гадоў з пачатку дзейнасці (1829) Беларускай навучальнай акругі

**180** гадоў назад (1834) у Віцебску адкрылася настаўніцкая семінарыя, спецыяльная навучальная ўстанова па падрыхтоўцы настаўнікаў прыходскіх вучылішч і падрыхтоўчых класаў гімназіі (закрыта ў 1839 г.)

**175** гадоў назад (1839) скончана будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Бебжы (басейн Віслы)

**175** гадоў назад (1839) заснавана метэаралагічная станцыя ў Гродна

**155** гадоў назад (1859) уведзена ў эксплуатацыю першая ў Беларусі тэлеграфная лінія Мінск – Бабруйск

**150** гадоў назад (1864) заснавана Маладзечанская настаўніцкая семінарыя (існавала да 1920 г.)

**145** гадоў назад (1869) пачалося будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (скончылася ў 1878 г.)

**145** гадоў назад нарадзіўся Богуш- Сестранцэвіч Станіслаў Станіслававіч (1869 – 1927), беларускі жывапісец і графік

**140** гадоў назад (1874) у Гомелі заснаваны галоўныя механічныя майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі (у далейшым Гомельскі вагонарамонтны завод, цяпер закрытае акцыянернае таварыства "Гомельскі вагонабудаўнічы завод")

**135** гадоў назад (1879) заснавана Нававеліцкая запалкавая фабрыка "Везувій" (з 1944 г. Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат, з 1971 г. уваходзіць у Гомельскае вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, цяпер прыватнае вытворчае ўнітарнае прадпрыемства "ФСК" на правах структурнага падраздзялення адкрытага акцыянернага таварыства "Гомельдрэў")

**130** гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю (1884) чыгуначнай лініі Вільня – Пінск

**130** гадоў з часу пабудовы (1884) Пінскага параходабудаўнічага завода (з 1939 г. суднарамонтны завод, з 1961 г. суднабудаўніча-суднарамонтны завод, з 1988 г. у складзе вытворчага аб'яднання "Белсуднабудрамонт", з 2000 г. рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Пінскі ордэна Знак Пашаны суднабудаўніча-суднарамонтны завод", цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "Пінскі ордэна Знак Пашаны суднабудаўніча-суднарамонтны завод")

**130** гадоў назад нарадзіўся Кумельскі Уладзімір Уладзіміравіч (1884 – 1939), акцёр і рэжысёр, заснавальнік Рускага драматычнага тэатра Беларусі, заслужаны артыст Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі

**125** гадоў назад нарадзіўся Рафальскі Міхаіл Фадзеевіч (1889 – 1937), рэжысёр яўрэйскага тэатра, педагог, народны артыст Беларусі

**120** гадоў з часу заснавання (1894) у мястэчку Альбярцін Слонімскага павета і маёнтку Лахозва Навагрудскага павета шоўкакруцільных фабрык

**115** гадоў назад нарадзіўся Засецкі Пётр Іванавіч (1899 – 1941), рускі і беларускі спявак, народны артыст Беларусі

**115** гадоў назад (1899) заснавана Мінская абласная бібліятэка імя А.С. Пушкіна (адкрыта 25 снежня 1900 г.)

**110** гадоў назад (1904) у Брэсце адкрыта жаночая гімназія

**105** гадоў назад (1909) у Брэсце быў адкрыты першы кінематограф

**105** гадоў назад (1909) пачалося выданне "Минской старины", зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі

**105** гадоў назад (1909) пачалося выданне "Полоцко-Витебской старины", зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі Беларусі

**105** гадоў з пачатку дзейнасці (1909) настаўніцкай семінарыі ў Рагачове (дзейнічала да 1919 г.)

**105** гадоў з часу выдання (1909) у Гомелі грамадска-палітычных і літаратурных газет “Полесье” і “Полесская жизнь”

**100** гадоў з часу стварэння (1914) у Мінску кампазітарам У.В. Тэраўскім аднаго з першых беларускіх харавых калектываў (у 1917 г. рэарганізаваны ў Беларускі народны хор)

**100** гадоў з часу заснавання (1914) Барысаўскай жаночай настаўніцкай семінарыі (існавала да 1916 г.)

**95** гадоў назад (1919) заснавана Віленская беларуская гімназія (існавала да 1944 г.)

**95** гадоў назад (1919) у Магілёве адкрыта музычная школа, адна з першых у Беларусі (з 1937 г. музычнае вучылішча імя М.А. Рымскага–Корсакава, з 2009 г. Магілёўскі дзяржаўны музычны каледж імя М.А. Рымскага–Корсакава)

**90** гадоў назад (1924) заснавана кніжна-часопіснае выдавецтва “Навука і тэхніка” (з 1996 г. “Беларуская навука”)

**90** гадоў з часу выдання (1924) у Мінску штомесячнага навукова-метадычнага часопіса Міністэрства адукацы Рэспублікі Беларусь “Народная асвета”

**90** гадоў з часу выдання (1924) у Мінску “Летапісу друку Беларусі”, штомесячнага дзяржаўнага бібліяграфічнага паказальніка

**90** гадоў назад (1924) у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум (з 1937 г. Мінскае музычнае вучылішча, у 1957 г. прысвоена імя М.І. Глінкі, з 2011 г. Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М.І. Глінкі)

**90** гадоў з часу заснавання (1924) Віцебскага ветэрынарнага інстытута (заснаваны на базе Віцебскага вышэйшага сельскагаспадарчага тэхнікума, Віцебскага губернскага ветэрынарна-заалагічнага музея і Віцебскай ветэрынарнай бактэрыялагічнай лабараторыі, з 1994 г. Віцебская акадэмія ветэрынарнай медыцыны, цяпер Віцебская дзяржаўная акадэмія ветэрынарнай медыцыны)

**90** гадоў з часу стварэння (1924) Гомельскай кандытарскай фабрыкі “Спартак” (створана як кандытарская фабрыка “Прасвет” на базе кандытарскай майстэрні, з 1994 г. – акцыянернае прадпрыемства Кандытарская фабрыка “Спартак”, у 1998 – 2013 гг. сумеснае беларуска – амерыканскае прапрыемства адкрытае акцыянернае таварыства “Кандытарская фабрыка “Спартак”, цяпер сумеснае прадпрыемства адкрытае акцыянернае таварыства “Спартак”)

**90** гадоў з часу стварэння (1924) акцыянернага таварыства “Радыёперадача”, якое паклала пачатак развіццю радыёвяшчання ў Беларусі

**90** гадоў назад (1924) заснавана “Беларуская хата”, культурна-асветнае таварыства беларускай інтэлігенцыі ў Латвіі (існавала да 1936 г.)

**85** гадоў назад (1929) выдаў першую прадукцыю Бабруйскі фанерна-дрэваапрацоўчы камбінат (з 1971 г. уваходзіць у аб’яднанне “Бабруйскдрэў”, з 1994 г. адкрытае акцыянернае таварыства “Фандак”)

**85** гадоў назад (1929) створаны Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**85** гадоў назад (1929) створаны Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі (з 2008 г. Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі)

**85** гадоў з часу ўвядзення ў дзеянне (1929) Лідскай абутковай фабрыкі (першапачаткова існавала як фабрыка гумавых вырабаў "Ардаль", цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "Лідская абутковая фабрыка"**)**

**85** гадоў назад (1929) створана Магілёўская швейная фабрыка імя В. Валадарскага (цяпер закрытае акцыянернае таварыства "Магілёўская швейная фірма "Вяснянка")

**85** гадоў назад (1929) заснаваны Беларускі дзяржаўны цэнтральны тэатр рабочай моладзі (існаваў да 1937 г.)

**85** гадоў назад (1929) заснаваны Польскі дзяржаўны вандроўны тэатр Беларусі (існаваў да 1935 г.)

**80** гадоў назад (1934) створаны Саюз пісьменнікаў Беларусі

**80** гадоў назад (1934) створаны Саюз архітэктараў Беларусі

**80** гадоў назад (1934) пачаў выдавацца ілюстраваны часопіс для дзяцей у Заходняй Беларусі "Пралескі" (выходзіў да 1939 г.)

**80** гадоў назад (1934) у Мінску адкрыўся стадыён "Дынама"

**75** гадоў назад (1939) уступіла ў лік дзеючых Гродзенская абутковая фабрыка "Нёман" (цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "Гродзенская абутковая фабрыка"Нёман")

**75** гадоў з часу стварэння (1939) Гомельскага абласнога рускага драматычнага тэатра (Другі дзяржаўны рускі тэатр Беларусі, працаваў у 1939 – 1941 гг., 1945 – 1946 гг.); у 1946 г. тэатр пераведзены ў Магілёў, дзе на яго базе створаны Магілёўскі драматычны тэатр (1946 – 1949 гг.)

**75** гадоў назад (1939) у Гродна створаны Дзяржаўны польскі тэатр Беларусі (існаваў да 1941 г.)

**75** гадоў назад (1939) заснаваны Пінскі абласны драматычны тэатр (існаваў у 1939 – 1941 гг., 1945 – 1954 гг.)

**70** гадоў з часу заснавання (1944) Мінскага аўтамабільнага завода (з 1975 г. галаўное прадпрыемства вытворчага аб'яднання па выпуску вялікагрузных аўтамабіляў "БелаўтаМАЗ", з 2002 г. Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Мінскі аўтамабільны завод", з 2009 г. адкрытае акцыянернае таварыства "Мінскі аўтамабільны завод", з 2012 г. адкрытае акцыянернае таварыства "Мінскі аўтамабільны завод" – упраўляючая кампанія холдынга "БелаўтаМАЗ")

**70** гадоў з часу заснавання на базе Гродзенскага настаўніцкага інстытута (1944) Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы (з 1978 г. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы)

**70** гадоў з часу заснавання (1944) Лідскага камбіната харчовых канцэнтратаў (з 1977 г. вытворчае аб’яднанне “Лідахарчканцэнтратпрам”, з 1997 г. адкрытае акцыянернае таварыства “Лідскія харчовыя канцэнтраты”)

**70** гадоў з пачатку дзейнасці (1944) Брэсцкага абласнога радыё

**70** гадоў назад (1944) арганізаваны Гродзенскі абласны камітэт радыёінфармацыі (цяпер Гродзенскае абласное тэлерадыёаб’яднанне)

**70** гадоў з часу заснавання ў Мінску (1944) Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (адкрыты для наведвання 20 верасня 1945 г.)

**70** гадоў назад (1944) заснаваны Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці

**70** гадоў з часу заснавання (1944) Мазырскага настаўніцкага інстытута (з 1952 г. Мазырскі педагагічны інстытут, зараз Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя І.П. Шамякіна)

**65** гадоў назад (1949) заснаваны Тэатр драмы і камедыі пры Белдзяржэстрадзе (існаваў да 1957 г.)

**65** гадоў назад (1949) заснаваны Магілёўскі завод натуральнага каўчука (з 1952 г. рэгенератны завод)

**65** гадоў назад у Барысаве (1949) створана арцель па вырабе гумовага абутку (з 1956 г. завод гумавых тэхнічных вырабаў, у 1976 – 1993 гг. у вытворчым аб’яднанні “Беларусьгуматэхніка”, з 1992 г. народнае прадпрыемства “Гуматэхніка”, цяпер Барысаўскі завод гуматэхнічных вырабаў)

**60** гадоў з часу заснавання (1954) Гомельскага абласнога драматычнага тэатра

**60** гадоў назад (1954) арганізаваны Беларускі інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (з 1992 г. Беларускі аграрны тэхнічны ўніверсітэт, цяпер Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт)

**60** гадоў з часу стварэння (1954) Беларускага геаграфічнага таварыства

**55** гадоў назад (1959) створаны Мінскі завод халадзільнікаў (з 1977 г. галаўное прадпрыемства вытворчага аб’яднання “Атлант”, з 1993 г. акцыянернага таварыства “Атлант”, цяпер закрытае акцыянернае таварыства “Атлант”)

**55** гадоў з часу заснавання (1959) Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі і Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**55** гадоў з часу заснавання (1959) Інстытута матэматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**55** гадоў з часу заснавання (1959) Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі

**55** гадоў назад (1959) створаны Саюз журналістаў Беларусі

**55** гадоў назад (1959) у Мінску адкрыты будынак Дзяржаўнага цырка Беларусі (Мінскі дзяржаўны цырк Беларусі)

**50** гадоў назад (1964) каля г. Рэчыцы адкрыта першае ў Беларусі прамысловае радовішча нафты

**50** гадоў з пачатку будаўніцтва (1964) Полацкага хімічнага камбіната (з 1975 г. Наваполацкае вытворчае аб’яднанне “Палімір”, цяпер адкрытае акцыянернае таварыства “Нафтан” завод “Палімір”)

**50** гадоў назад (1964) здана ў эксплуатацыю першая прадзільная фабрыка Баранавіцкага баваўнянага камбіната

**50** гадоў з часу заснавання (1964) Мінскага радыётэхнічнага інстытута (створаны на базе радыётэхнічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута, з 1993 г. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі)

**45** гадоў з часу заснавання (1969) вакальна-інструментальнага ансамбля “Песняры” Беларускай дзяржаўнай філармоніі

**45** гадоў з часу стварэння (1969) у Брэсце радыётэлецэнтра

**45** гадоў з часу адкрыцця (1969) у Брэсце абласной філармоніі

**45** гадоў назад (1969) на Магілёўскім ліфтабудаўнічым заводзе адбыўся выпуск першых пасажырскіх ліфтаў

**40** гадоў з часу адкрыцця (1974) політэхнічнага інстытута ў Наваполацку (цяпер Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)

**40** гадоў назад (1974) створаны вакальна-інструментальны ансамбль “Верасы”

**40** гадоў назад (1974) створана творчае аб’яднанне “Студыя “Сябры”

**40** гадоў назад (1974) створаны Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль “Харошкі”

**40** гадоў з часу адкрыцця (1974) рэспубліканскага спартыўнага комплексу “Раўбічы”

**40** гадоў з пачатку правядзення (1974) Міжнароднага штотыднёвага фестывалю мастацтваў “Беларуская музычная восень”

**40** гадоў назад (1974) створаны жаночы вакальна-інструментальны ансамбль “Чараўніцы” Беларускай дзяржаўнай філармоніі (існаваў да 1991 г.)

**35** гадоў з часу адкрыцця (1979) у Мінску Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**35** гадоў з часу заснавання (1979) Гомельскага кааператыўнага інстытута (цяпер Беларускі гандлёва-эканамічны ўніверсітэт спажывецкай кааперацыі)

**30** гадоў назад (1984) у Мінску створаны Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр

**25** гадоў з часу заснавання (1989) у Мінску Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (устаноўчы з’езд адбыўся 4 чэрвеня 1989 г.)

**25** гадоў назад (1989) на базе віцебскай абутковай фабрыкі “Чырвоны Кастрычнік” і нямецкай фірмы “Саламандэр” створана сумеснае беларуска-нямецкае прадпрыемства па вытворчасці і рэалізацыі абутку “Белвест”

**15** гадоў назад (1999) выйшаў у свет першы нумар навукова-практычнага ілюстраванага часопіса “Архівы і справаводства”

**СТУДЗЕНЬ**

**1** Новы год

105 гадоў з дня нараджэння Андруховіча Сцяпана Адамавіча (1909 – 1989), беларускага жывапісца

95 гадоў з часу стварэння (1919) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Апублікаванне Маніфеста Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

85 гадоў з часу адкрыцця (1929) Акадэміі навук БССР (на базе Інстытута беларускай культуры, з 1997 г. Нацыянальная акадэмія навук Беларусі)

55 гадоў з часу адкрыцця (1959) у в. Трасцянец Мінскага раёна помніка ахвярам нацызму

**4** 285 гадоў з дня нараджэння Літавора Храптовіча Яўхіма Ігнацыя Юзафа (1729 – 1812), грамадскага і дзяржаўнага дзеяча, філосафа, публіцыста, паэта

145 гадоў з дня нараджэння Ядвігіна Ш. (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч) (1869 – 1922), беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай прозы

**7** Ражство Хрыстова (праваслаўнае)

**8** 90 гадоў з дня нараджэння (1924) Савіцкага Алеся (Аляксандра Ануфрыевіча), беларускага пісьменніка

60 гадоў назад (1954) у Маладзечне ўведзена ў эксплуатацыю мэблевая фабрыка (з 1977 г. у Мінскім вытворчым мэблевым аб’яднанні, з 1992 г. Маладзечанскае арэнднае вытворчае мэблевае аб’яднанне, з 1994 г. закрытае акцыянернае таварыства “Маладзечнамэбля”)

**9** 105 гадоў з дня нараджэння Осіпавай Марыі Барысаўны (1909 – 1999), удзельніцы Мінскага патрыятычнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

85 гадоў з дня нараджэння Стасевіча Івана Нічыпаравіча (1929 – 1998), беларускага мастака, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**12** 95 гадоў з дня нараджэння Хомчанкі Васіля Фёдаравіча (1919 – 1992), беларускага пісьменніка

**13** 115 гадоў з дня нараджэння Каржа Васіля Захаравіча (1899 – 1967), аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**14** 110 гадоў з дня нараджэння Белага Віктара Аркадзевіча (Аронавіча) (1904 – 1983), кампазітара, музычнага публіцыста, народнага артыста Расіі, заслужанага артыста Беларусі

110 гадоў з дня нараджэння Севярдэнкі Васіля Пятровіча (1904 – 1978), вучонага ў галіне металазнаўства, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння (1939) Шаранговіча Васіля Пятровіча, народнага мастака Беларусі

**15** 115 гадоў з дня нараджэння Скальскага Сцяпана Уладзіміравіча (1899 – 1972), беларускага акцёра, заслужанага артыста Беларусі

**16** 185 гадоў з дня нараджэння Спасовіча Уладзіміра Данілавіча (1829 – 1906), публіцыста, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча

95 гадоў з дня нараджэння Алоўнікава Уладзіміра Уладзіміравіча (1919 – 1996), беларускага кампазітара, народнага артыста Беларусі

**17** 130 гадоў з дня нараджэння Гарадзецкага Сяргея Мітрафанавіча (1884 – 1967), рускага паэта, перакладчыка твораў Я. Купалы і Я. Коласа

110 гадоў з дня нараджэння Якімовіча Алеся (Аляксандра Іванавіча) (1904 – 1979), беларускага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**19** 110 гадоў з дня нараджэння Валынца Андрэя Іванавіча (1904 – 1965), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Вілейскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

75 гадоў з дня нараджэння (1939) Мархель Таццяны Рыгораўны, беларускай актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

**20** 130 гадоў з дня нараджэння Сянкевіча Аляксандра Антонавіча (1884 – 1938), беларускага пісьменніка, публіцыста, вучонага, дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Беларусі

**22** 25 гадоў назад (1989) Савет Міністраў БССР прыняў пастанову “Аб увекавечанні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937 – 1941 гг. у лясным масіве Курапаты”

**24** 75 гадоў назад (1939) у Мінску заснавана і адкрыта Дзяржаўная карцінная галерэя (у 1957 – 1993 гг. Дзяржаўны мастацкі музей, з 1993 г. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь)

**25** 145 гадоў з дня нараджэння Гурыновіча Адама Гілярыя Калікставіча (1869 – 1894), беларускага паэта-дэмакрата, фалькларыста

**28** 100 гадоў з дня нараджэння Чамадурава Яўгена Рыгоравіча (1914 – 2006), мастака тэатра, народнага мастака Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Таджыкістана, Латвіі і Расіі

95 гадоў з дня нараджэння Кармуніна Паўла Васілевіча (1919 – 2002), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

**29** 130 гадоў з дня нараджэння Луцкевіча Антона Іванавіча (1884 – 1942), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, публіцыста, літаратурнага крытыка

100 гадоў з дня нараджэння Бацвіннік Любові Якаўлеўны (1914 – 1980), дыктара Беларускага радыё, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння (1939) Леантовіча Валерыя Аляксеевіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**31** 95 гадоў назад (1919) выйшла пастанова Прэзідыума Усерасійскага Цэнтральнага выканаўчага камітэта "Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі"

***

**70** гадоў назад (1944) адноўлена выданне часопіса "Беларусь" (раней меў назву "Чырвоная Беларусь")

**ЛЮТЫ**

**1** 110 гадоў з дня нараджэння Качаткова Рыгора Аляксандравіча (1904 – 1968), рускага акцёра, народнага артыста Узбекістана, народнага артыста Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Лысятава Юрыя Васілевіча (1929 – 1997), беларускага кінарэжысёра-дакументаліста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння (1939) Талкачовай Ларысы Сямёнаўны, беларускай піяністкі, канцэртмайстра, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь

**2** 130 гадоў з дня нараджэння Аляксеева Яўгена Кузьміча (1884 – 1972), агранома-раслінавода, акадэміка Акадэміі навук Беларусі

**6** 100 гадоў з дня нараджэння Куляшова Аркадзя Аляксандравіча (1914 – 1978), народнага паэта Беларусі, заслужанага работніка культуры Украіны

**8** 110 гадоў з дня нараджэння Лапо Аркадзя Іванавіча (1904 – 1983), раслінавода, селекцыянера, акадэміка Акадэміі навук Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Таўлая Валянціна Паўлавіча (1914 – 1947), беларускага паэта, літаратуразнаўца, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Ахрэма Апанаса Андрэевіча (1914 – 2010), хіміка, біяарганіка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**9** 115 гадоў з дня нараджэння Мішэніна Івана Дзмітрыевіча (1899 – 1974), урача-тэрапеўта, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**12** 100 гадоў з дня нараджэння Бакланава Міхаіла Іванавіча (1914 – 1990), заслужанага архітэктара Беларусі

**14** 100 гадоў з дня нараджэння Масленікава Паўла Васілевіча (1914 – 1995), беларускага тэатральнага мастака, пейзажыста, мастацтвазнаўца, педагога, народнага мастака Беларусі

**15** 110 гадоў з дня нараджэння Александроўскай Ларысы Пампееўны (1904 – 1980), беларускай спявачкі, рэжысёра, грамадскага дзеяча, народнай артысткі СССР

**16** 90 гадоў з дня нараджэння (1924) Засліцкага Андрея Міхайлавіча, скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Гарэліка Льва Давыдавіча (1929 – 1996), беларускага скрыпача, педагога, народнага артыста Беларусі

**23** Дзень абаронцаў Айчыны і Ўзброеных сіл Рэспублікі Беларусь

**25** 95 гадоў назад (1919) Выканаўчы камітэт Мінскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў прыняў рашэнне аб стварэнні Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску

65 гадоў назад (1949) у Мінску створана Добраахвотнае пажарнае таварыства

* * *

**240** гадоў з часу заснавання (1774) Беларускай рымска-каталіцкай дыяцэзіі

## САКАВІК

**1** 85 гадоў з дня нараджэння Лось Еўдакіі Якаўлеўны (1929 – 1977), беларускай паэтэсы

**2** 135 гадоў з дня нараджэння Кроля Міхаіла Барысавіча (1879 – 1939), урача-неўрапатолага, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР

115 гадоў з дня нараджэння Міронскага Аляксандра Васілевіча (1899 – 1955), рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**3** 80 гадоў з дня нараджэння (1934) Талкачовай Галіны Сямёнаўны, беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі

**4** 95 гадоў з дня нараджэння Лупсякова Міколы (Мікалая Радзівонавіча) (1919 – 1972), беларускага пісьменніка, перакладчыка

90 гадоў з дня нараджэння (1924) Ражэнавай Лідзіі Міхайлаўны, артысткі балета, народнай артысткі Беларусі

65 гадоў з дня нараджэння (1949) Тамашэвіча Івана Мікалаевіча, беларускага спевака, баяніста, педагога, народнага артыста Беларусі

**7** 95 гадоў з дня нараджэння Слесарэнкі Аляксея Аляксеевіча (1919 – 2005), беларускага пісьменніка, акцёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

90 гадоў назад (1924) прынята пастанова Прэзідыума ЦВК СССР "Аб аб'яднанні ў складзе Беларускай ССР усіх тэрыторый Савецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва" (да БССР далучаны шэраг паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў)

**8** Дзень жанчын

100 гадоў з дня нараджэння Зяльдовіча Якава Барысавіча (1914 – 1987), фізіка-тэарэтыка, акадэміка Акадэміі навук СССР, тройчы Героя Сацыялістычнай Працы

**10** 75 гадоў назад (1939) адбылося адкрыццё ў Мінску будынка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР (цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь)

**11** 85 гадоў з дня нараджэння Праваторава Генадзя Панцеляймонавіча (1929 – 2010), расійскага і беларускага дырыжора, педагога, народнага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі

**14** 95 гадоў з дня нараджэння Ісачанкі Аляксандра Лаўрынавіча (1919 – 1942), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху ў Гомельскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**15** Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

**17** 105 гадоў з дня нараджэння Паўлючэнкі Міхаіла Міхайлавіча (1909 – 1975), беларускага фізікахіміка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

95 гадоў з дня нараджэння Шкрабы Рыгора Васілевіча (1919 – 1997), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі

**18-20** 20 гадоў назад (1994) у Маладзечна праходзіў першы ў рэспубліцы фестываль майстроў тэатральнага мастацтва Беларусі "Маладзечанская сакавіца – 94"

**19** 90 гадоў з дня нараджэння Садзіна Уладзіміра Сцяпанавіча (1924 – 2010), беларускага графіка, заслужанага работніка культуры Беларусі

**20** 75 гадоў з дня нараджэння (1939) Іофе Эмануіла Рыгоравіча, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара

**23** 115 гадоў з дня нараджэння Галіны (па мужу – Александроўскай) Вольгі Уладзіміраўны (1899 – 1980), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі

**24** 80 гадоў з дня нараджэння Ступакова Юрыя Фёдаравіча (1934 – 1999), беларускага і рускага акцёра, народнага артыста Беларусі

**28** 95 гадоў з дня нараджэння Палтаран (Ляпескай) Веры Сямёнаўны (1919 – 1989), беларускай пісьменніцы, заслужанага работніка культуры Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння (1934) Цвіркі Кастуся (Канстанціна Аляксеевіча), беларускага паэта, перакладчыка, фальклярыста, выдаўца, этнографа

**31** 90 гадоў назад (1924) у Мінску адкрыты Дом Чырвонай Арміі (з 1992 г. Цэнтральны Дом афіцэраў)

25 гадоў назад (1989) адкрыўся музей гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

***

**55** гадоў з часу адпраўкі (1954) першай групы моладзі Беларусі ў Казахстан на асваенне цалінных зямель

**КРАСАВІК**

**1** 105 гадоў з дня нараджэння Смольскага Браніслава Сільвестравіча (1909 – 2005), музыказнаўца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

95 гадоў з дня нараджддэння Кудрэвіч Раісы Уладзіміраўны (1919 – 2000), беларускага жывапісца і графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**2** Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі

**3** 85 гадоў назад (1929) прынята Пастанова Віцебскага акрвыканкама “Аб электрыфікацыі Віцебскага раёна ў сувязі з пускам Асінбуда”

**4** 100 гадоў з дня нараджэння Мазанік Алены Рыгораўны (1914 – 1996), удзельніцы Мінскага патрыятычнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**6** 110 гадоў з дня нараджэння Хведаровіча Міколы (сапр. Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч) (1904 – 1981), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка

**7** 100 гадоў з дня нараджэння Мазурава Кірылы Трафімавіча (1914 – 1989), дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Беларусі і СССР

**9** 115 гадоў з дня нараджэння Літвінава (сапр. Гурэвіч) Льва Маркавіча (1899 – 1963), беларускага рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**11** 95 гадоў з дня нараджэння Смоліча Дзмітрыя .Мікалаевіча (1919 – 1987),606 опернага рэжысёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста Украіны, народнага артыста СССР

**17** 150 гадоў назад (1864) пачала сваю дзейнасць Віленская археаграфічная камісія, якая займалася зборам і выданнем дакументаў па гісторыі Беларусі і Літвы (існавала да 1915 г.)

115 гадоў з дня нараджэння Ржэцкай Лідзіі Іванаўны (1899 – 1977), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР

**18** 200 гадоў з дня нараджэння Тышкевіча Яўстафія Піевіча (1814 – 1873), беларускага археолага, гісторыка, этнографа і краязнаўца, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі

**20** Вялікдзень (па календарах праваслаўнай і каталіцкай канфесій)

**23** 125 гадоў з дня нараджэння Лявонава Васіля Антонавіча (1889 – 1972), вучонага-педыятра, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі, заснавальніка беларускай школы педыятраў

80 гадоў з дня нараджэння Конана Уладзіміра Міхайлавіча (1934 – 2011), беларускага філосафа, гісторыка, літаратурнага крытыка, літаратуразнаўца

**25** 110 гадоў з дня нараджэння Барысенкі Васіля Васілевіча (1904 – 1984), літаратуразнаўца, крытыка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**26** 115 гадоў з дня нараджэння Гурскага Ільі Данілавіча (1899 – 1972), беларускага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**28** 65 гадоў з дня нараджэння Будніка Уладзіміра Іванавіча (1949 – 2007), беларускага кампазітара

50 гадоў назад (1964) заснавана Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (з 1976 г. таварыства "Радзіма", з 1991 г. Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом)

**29** Радаўніца

**МАЙ**

**1** Свята працы

85 гадоў назад (1929) пачата будаўніцтва Магілёўскай фабрыкі штучнага валакна (з 1945 г. завод штучнага валакна імя В. Куйбышава, з 1975 г. у Магілёўскім вытворчым аб'яднанні "Хімвалакно", цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "Магілёўхімвалакно")

75 гадоў з дня нараджэння (1939) Гайды Наталлі Віктараўны, беларускай спявачкі, народнай артысткі Беларусі

45 гадоў з часу адкрыцця (1969) Гомельскага педагагічнага інстытута імя В.П. Чкалава (цяпер Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны)

**5** 195 гадоў з дня нараджэння Манюшкі Станіслава (1819 – 1872), беларускага і польскага кампазітара, дырыжора і педагога, стваральніка нацыянальнай класічнай оперы

**6** 110 гадоў з дня нараджэння Труса Паўлюка (Паўла Адамавіча) (1904 – 1929), беларускага паэта

**9** Дзень Перамогі

85 гадоў з дня нараджэння Асецкага Людвіга Пятровіча (1929 – 2005), беларускага графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**10** 105 гадоў з дня нараджэння Ерафеева Барыса Васілевіча (1909 – 1995), беларускага фізікахіміка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння (1934) Бяганскай Галіны Аляксандраўны, беларускага архітэктара, заслужанага архітэктара Беларусі

**11** 115 гадоў з дня нараджэння Глебава (сапр. Сарокін) Глеба Паўлавіча (1899 – 1967), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР

Дзень Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь

**12** 60 гадоў з часу ўступлення (1954) БССР у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый па пытаннях асветы, навукі і культуры (ЮНЕСКА)

**12-15** 90 гадоў назад (1924) у Мінску адбылася І Усебеларуская канферэнцыя архіўных работнікаў

**14** 145 гадоў з дня нараджэння Кругера Янкеля Мордухавіча (Якава Маркавіча) (1869 – 1940), жывапісца і педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**19** 105 гадоў з дня нараджэння Пакроўскага Мікалая Пракопавіча (1909 – 1976), аднаго з кіраўнікоў і арганізатараў партызанскага руху ў Мінскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**20** 130 гадоў з дня нараджэння Алексютовіча Канстанціна Андрэевіча (1884 – 1943), беларускага балетмайстра

125 гадоў з дня нараджэння Грыгоніса Генрыха Юр'евіча (1889 – 1955), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння (1929) Шыраканава Дзмітрыя Іванавіча, беларускага філосафа, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**21** 145 гадоў з дня нараджэння Чуркіна Мікалая Мікалаевіча (1869 – 1964), беларускага кампазітара і фалькларыста, народнага артыста Беларусі

120 гадоў з дня нараджэння Галадзеда Мікалая Мацвеевіча (1894 – 1937), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі

**24** 110 гадоў з дня нараджэння Русака Адама Герасімавіча (1904 – 1987), беларускага паэта-песенніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**27** 100 гадоў з дня нараджэння Бялевіча Антона Пятровіча (1914 – 1978), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка

90 гадоў назад (1924) у Навагрудку адбылася ўрачыстая закладка Кургана бессмяротнасці – мемарыяла Адама Міцкевіча

**29** 75 гадоў з дня нараджэння Пісаравай Людмілы Іванаўны (1939 – 2011), беларускай актрысы, заслужанай артысткі беларусі

***

**95** гадоў назад (1919) у Віцебску заснаваны батанічны сад

**ЧЭРВЕНЬ**

**5** 160 гадоў з дня нараджэння Пэна Юдаля (Іегуды) Моўшавіча (1854 – 1937), беларускага жывапісца і педагога

**6** 115 гадоў з часу адкрыцця (1899) у Оршы гарадской публічнай бібліятэкі імя А.С. Пушкіна (цяпер Аршанская цэнтральная гарадская бібліятэка імя А.С. Пушкіна)

**8-14** 80 гадоў назад (1934) адбыўся І Усебеларускі з’езд пісьменнікаў

**12** 75 гадоў назад (1939) у Віцебску адкрыта карцінная галерэя імя Ю.М. Пэна (дзейнічала да чэрвеня 1941 г.)

**13** 115 гадоў з дня нараджэння Навіцкага Станіслава Мамертавіча (1899 – 1972), беларускага цымбаліста, заслужанага артыста Беларусі

105 гадоў з часу заснавання (1909) у Віцебску вучонай архіўнай камісіі (дзейнічала да 1919 г.)

**14** 75 гадоў з дня нараджэння (1939) Памазана Арнольда Кандратавіча, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

**16** 180 гадоў з дня нараджэння Ельскага Аляксандра Карлавіча (1834 – 1916), беларускага гісторыка, этнографа, краязнаўца, пісьменніка, перакладчыка, публіцыста

**18** 75 гадоў з дня нараджэння Янчанкі Алега Рыгоравіча (1939 – 2002), беларускага арганіста, кампазітара, народнага артыста Расіі

**19** 90 гадоў з дня нараджэння Быкава Васіля Уладзіміравіча (1924 – 2003), народнага пісьменніка Беларусі

**20** 115 гадоў з дня нараджэння Сяргейчыка Цімафея Мікалаевіча (1899 – 1977), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Раеўскага Валерыя Мікалаевіча (1939 – 2011), беларускага рэжысёра тэатра, педагога, народнага артыста Беларусі

70 гадоў з пачатку (1944) 3-га этапа “рэйкавай вайны” беларускіх партызан на чыгуначных камунікацыях нямецкіх узброеных сіл

**21** 150 гадоў з дня нараджэння Сержпутоўскага Аляксандра Казіміравіча (1864 – 1940), беларускага этнографа і фалькларыста

**23** 70 гадоў назад (1944) пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (аперацыя “Баграціён”)

**24** 55 гадоў з дня нараджэння (1959) Душкевіч Інэсы Анатолеўны, беларускай артысткі балета, народнай артысткі Беларусі

50 гадоў з часу адкрыцця (1964) у в. Цімкавічы Капыльскага раёна літаратурнага музея Кузьмы Чорнага

**26** 80 гадоў з дня нараджэння (1934) Градава Юрыя Міхайлавіча, беларускага архітэктара, заслужанага архітэктара Беларусі

70 гадоў з дня вызвалення (1944) Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

40 гадоў назад (1974) выдадзены Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні Мінску ганаровага звання “Горад-герой”

**28** 70 гадоў з дня вызвалення (1944) Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

35 гадоў з часу выхаду (1979) Пастановы Савета Міністраў БССР аб заснаванні Чырвонай кнігі Беларускай ССР – кнігі рэдкіх відаў жывёл і раслін БССР і тых, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення

**30** 40 гадоў з часу адкрыцця (1974) мемарыяльнага комплексу “Прарыў” каля г.п. Ушачы Віцебскай вобласці

30 гадоў назад (1984) адбылося адкрыццё першай чаргі Мінскага метрапалітэна

**ЛІПЕНЬ**

**1** 445 гадоў назад (1569) заключана Люблінская ўнія – урачыстае абвяшчэнне пра аб’яднанне на аснове роўнасці Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую

**2** 105 гадоў з дня нараджэння Бумажкова Ціхана Піменавіча (1909 – 1941), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

95 гадоў з дня нараджэння Серыкава Івана Арцёмавіча (1919 – 1997), беларускага балетмайстра, дзеяча самадзейнага мастацтва, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**3** Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі)

75 гадоў з дня нараджэння Караткевіча Уладзіміра Аляксандравіча (1939 – 1999), беларускага акцёра, рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь

70 гадоў з дня вызвалення (1944) сталіцы Беларусі Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

70 гадоў назад (1944) аднавіў сваю дзейнасць Магілёўскі абласны радыёкамітэт

**4** 110 гадоў з дня нараджэння Альшэўскага Анатоля Адамавіча (парт. псеўд. Юрка Пружанскі) (1904 – 1937), дзеяча рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі, публіцыста

60 гадоў з часу ўрачыстага адкрыцця (1954) у Мінску манумента Перамогі – помніка воінам Савецкай Арміі і партызанам, якія загінулі ў баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

**5** 45 гадоў назад (1969) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу “Курган Славы”

45 гадоў назад (1969) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу “Хатынь”

45 гадоў з часу адкрыцця (1969) Віцебскага абласнога мемарыяльнага музея Героя Савецкага Саюза М.Ф. Шмырова

**6** 105 гадоў з дня нараджэння Грыцаўца Сяргея Іванавіча (1909 – 1939), лётчыка, першага двойчы Героя Савецкага Саюза

**8** 105 гадоў з дня нараджэння Ліўшыца Гілера Маркавіча (1909 – 1983), беларускага гісторыка і філосафа, доктара гістарычных і філасофскіх навук, прафесара

55 гадоў з часу заснавання (1959) у Маладзечна Мінскага абласнога краязнаўчага музея (адкрыты 26 красавіка 1964 г.)

**9** 110 гадоў з дня нараджэння Гарбунова Цімафея Сазонавіча (1904 – 1969), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі

**10** 20 гадоў з часу абрання (1994) Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь

**11** 80 гадоў з дня нараджэння Вуячыча Віктара Лук’янавіча (1934 – 1999), беларускага эстраднага спевака, народнага артыста Беларусі

**13** 125 гадоў з дня нараджэння Нікалаева Сяргея Піліпавіча (1889 – 1973), беларускага тэатральнага мастака, народнага мастака Беларусі

**14** 100 гадоў з часу заснавання (1914) у Мінску настаўніцкага інстытута (цяпер Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка)

85 гадоў з дня нараджэння (1929) Апанасевіча Паўла Андрэевіча, фізіка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

50 гадоў назад (1964) уступіла ў лік дзеючых тэлевізійная станцыя ў Пінску

**16** 70 гадоў назад (1944) у Мінску адбыўся мітынг працоўных і партызан з прадстаўнікамі Чырвонай Арміі і парад партызан, прысвечаныя вызваленню сталіцы Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

**16-24** 70 гадоў з часу вызвалення (1944) Гродна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

**18** 110 гадоў з дня нараджэння Радзялоўскай Алены Паўлаўны (1904 – 1971), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі

105 гадоў з дня нараджэння Грамыкі Андрэя Андрэевіча (1909 – 1989), савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы, ураджэнца Беларусі

**19** 145 гадоў з дня нараджэння Вітана-Дубейкаўскага (Дубяйкоўскага) Лявона Іванавіча (1869 – 1940), беларускага паэта, архітэктара

**20** 90 гадоў з дня нараджэння Анічэнкі Уладзіміра Васілевіча (1924 – 2001), мовазнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**21** 85 гадоў з дня нараджэння Каваленкі Віктара Антонавіча (1929 – 2001), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, пісьменніка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**22** 80 гадоў з дня нараджэння (1934) Давыдава Валянціна Канстанцінавіча, беларускага артыста балета, народнага артыста Беларусі

**24** 80 гадоў з дня нараджэння (1934) Гарбука Генадзя Міхайлавіча, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

**25** 60 гадоў з дня нараджэння (1954) Аколавай Валянціны Валянцінаўны, беларускай паэтэсы

**27** 115 гадоў з дня нараджэння Ваўпшасава Станіслава Аляксеевіча (1899 – 1976), аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**28** 70 гадоў з дня вызвалення (1944) Брэста ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Завяршэнне вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

**29** 100 гадоў з дня нараджэння Міцкевіча Мікалая Іванавіча (1914 – 1991), беларускага фізікахіміка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

***

**80** гадоў з часу заснавання (1934) Віцебскага медыцынскага інстытута (да 1938 г. існаваў як бальніца-інстытут, цяпер Віцебскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт)

**ЖНІВЕНЬ**

**1** 105 гадоў з часу заснавання (1909) Рагачоўскай мужчынскай настаўніцкай семінарыі (існавала да 1919 г.)

**2** 465 гадоў з дня нараджэння Радзівіла Мікалая Крыштова (мянушка Сіротка) (1549 – 1616), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната, пісьменніка

100 гадоў з дня нараджэння Каламійцавай Таццяны Міхайлаўны (1914 – 1994), беларускага дырыжора, народнай артысткі Беларусі

**6** 110 гадоў з дня нараджэння Гарбунова Цімафея Сазонавіча (1904 – 1969), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, гісторыка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі

**8** 55 гадоў назад (1959) Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў пастанову аб заснаванні на тэрыторыі будаўніцтва Старобінскага калійнага камбіната рабочага пасёлку і наданні яму назвы Салігорск

**9** 55 гадоў з дня нараджэння (1959) Гулегінай Марыі Агасаўны, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь

**10** 85 гадоў з дня нараджэння Ставера Алеся (Аляксандра Сяргеевіча) (1929 – 1995), беларускага паэта, празаіка, драматурга

**11** 40 гадоў назад (1974) у Полацку адкрыты помнік Францыску Скарыне

**13** 105 гадоў з дня нараджэння Захарава Івана Кузьміча (1909 – 1982), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза, заслужанага работніка культуры Беларусі

**23** 90 гадоў з дня нараджэння Лапато Георгія Паўлавіча (1924 – 2003), беларускага вучонага ў галіне вылічальнай тэхнікі, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, члена-карэспандэнта Расійскай акадэміі навук

**25** 115 гадоў з дня нараджэння Аршанскага Эдуарда Львовіча (1899 – 1974), беларускага кінарэжысёра

**28** 140 гадоў з дня нараджэння Уласава Аляксандра Мікітавіча (1874 – 1941), беларускага выдаўца, грамадскага дзеяча, публіцыста, мемуарыста

105 гадоў з дня нараджэння Бергера Міхаіла Аркадзевіча (1909 – 1981), беларускага піяніста, педагога, заслужанага артыста Беларусі

90 гадоў з часу заснавання (1924) у Мінску Беларускага навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі (з 2005 г. дзяржаўная ўстанова “Рэспубліканскі навуова-практычны цэнтр неўралогіі і нейрахірургіі”)

40 гадоў з часу выдання (1974) Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Віцебска ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

**30** 210 гадоў з дня нараджэння Ходзькі (сапр. Барэйка) Аляксандра (1804 – 1891), беларускага паэта, фалькларыста, славіста, усходазнаўца

60 гадоў з дня нараджэння (1954) Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

**31** 120 гадоў з дня нараджэння Грубэ Аляксандра Васілевіча (1894 – 1980), беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі

***

**45** гадоў з часу адкрыцця (1969) на возеры Нарач Мядзельскага раёна рэспубліканскага піянерскага лагера "Зубраня" (цяпер Нацыянальны дзіцячы аздараўленчы лагер "Зубраня")

**40** гадоў з часу заснавання (1974) у Радашковічах завода мастацкай керамікі (цяпер аб'яднанае акцыянернае таварыства "Белмастацкераміка")

**ВЕРАСЕНЬ**

**4** 155 гадоў з дня нараджэння Эпімаха – Шыпілы Браніслава Ігнатавіча (1859 – 1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, фалькларыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца

**6** Дзень беларускага пісьменства і друку

80 гадоў з дня нараджэння Белахвосціка Валянціна Сяргеевіча (1934 – 2003), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

**7** 250 гадоў з дня нараджэння Шантыра Станіслава (1764 – 1864), беларускага рэлігійнага дзеяча, мемуарыста, гісторыка рэлігіі

95 гадоў з дня нараджэння Асіпенкі Алеся (Аляксандра Харытонавіча) (1919 – 1994), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі

**10** 85 гадоў з дня нараджэння Глебава Яўгена Аляксандравіча (1929 – 2000), беларускага кампазітара, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР

**12** 85 гадоў з дня нараджэння Матукоўскага Мікалая Ягоравіча (1929 – 2001), беларускага драматурга, заслужанага работніка культуры Беларусі

**13** 40 гадоў назад (1974) Беларуская рэспубліканская студыя тэлебачання пачала каляровыя перадачы

**15** 85 гадоў з дня нараджэння (1929) Кашкурэвіча Арлена (Арсена) Міхайлавіча, беларускага графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага мастака Беларусі

**16** 110 гадоў з дня нараджэння Кашэльнікавай Раісы Мікалаеўны (1904 – 1980), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі

**17** 100 гадоў з дня нараджэння Раманава Сяргея Рыгоравіча (1914 – 2001), беларускага графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

75 гадоў з часу ўз’яднання (1939) Заходняй Беларусі з БССР

**19** 100 гадоў з дня нараджэння Канавалава Яўмена Рыгоравіча (1914 – 1974), вучонага ў галіне тэхналогіі машынабудавання, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі

**20** 85 гадоў з дня адкрыцця (1929) Слонімскага краязнаўчага музея (цяпер Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя І.І. Стаброўскага)

70 гадоў назад (1944) выйшаў Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб стварэнні ў складзе БССР Гродзенскай вобласці

**23** 90 гадоў з дня нараджэння Вольскага (сапр. Вольскі-Зэйдэль) Артура Віталевіча (1924 – 2002), беларускага паэта, драматурга, перакладчыка

**25** 110 гадоў з дня нараджэння Горава Канстанціна Васілевіча (1904 – 1988), вучонага ў галіне металазнаўства, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Данілюк Святланы Пеліпаўны (1939 – 2003), беларускай спявачкі, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР

**26** 50 гадоў назад (1964) з вёсак Баравыя, Купа, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сцепянёва, Урлікі ўтвораны курортны пасёлак Нарач

**28** 25 гадоў назад (1989) аднавіла дзейнасць Мінская вышэйшая духоўная семінарыя (з 1991 г. мае статус вышэйшай навучальнай установы, знаходзіцца ў в. Жыровічы Слонімскага раёна)

**29** 485 гадоў з часу зацвярджэння (1529) Першага Статута Вялікага княства Літоўскага

220 гадоў з дня нараджэння Ходзькі (сапр. Барэйка) Ігната (1794 – 1861), беларускага пісьменніка, мемуарыста

110 гадоў з дня нараджэння Голуба Льва Уладзіміравіча (1904 – 1994), беларускага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі

**30** 105 гадоў з дня нараджэння Мазалькова Яўгена Сямёнавіча (1909 – 1969), рускага крытыка, перакладчыка, літаратуразнаўца, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Міцкевіча Данілы Канстанцінавіча (1914 – 1996), беларускага хіміка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, сына Якуба Коласа

**КАСТРЫЧНІК**

**1** 70 гадоў з часу стварэння (1944) Брэсцкага тэатра драмы і музыкі імя Ленінскага камсамола Беларусі

**2** 195 гадоў з дня нараджэння Незабытоўскага Аляксандра (1819 – 1849), беларускага і польскага пісьменніка, гісторыка, філосафа

**4** 270 гадоў з дня нараджэння Карповіча Міхаіла Францішка (1744 – 1803), палітычнага і царкоўнага дзеяча, багаслова-асветніка

**6** Дзень архівіста

85 гадоў з часу пуску (1929) у Барысаве першага ў Беларусі каніфольнага завода (цяпер адкрытае акцыянернае таварыства “Лесахімік”)

20 гадоў з часу прыняцця (1994) Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Закона Рэспублікі Беларусь “Аб Нацыянальным архіўным фондзе і архівах у Рэспубліцы Беларусь”

**10** 85 гадоў з дня нараджэння Казея Марата Іванавіча (1929 – 1944), юнага партызана, Героя Савецкага Саюза

**13** 115 гадоў з дня нараджэння Жыркевіча Міхаіла Іванавіча (1899 – 1984), беларускага мовазнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

85 гадоў з часу пуску (1929) у Мінску першага трамвая

**14** 115 гадоў з дня нараджэння Бабарэкі Адама Антонавіча (1899 – 1938), беларускага пісьменніка і крытыка

**15** 90 гадоў з дня нараджэння (1924) Солапава Міхаіла Рыгоравіча, беларускага баяніста, педагога, дзеяча самадзейнага мастацтва, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

50 гадоў з часу ўводу ў дзеянне (1964) міжнароднага нафтаправоду “Дружба”

**17** 95 гадоў з дня нараджэння Сысоева Георгія Васілевіча (1919 – 2010), заслужанага архітэктара Беларусі

**21** 100 гадоў з дня нараджэння Свёнтака Казіміра (1914 – 2011), дзеяча каталіцкага касцёла ў Беларусі, апостальскага візітатара Пінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі, кардынала

95 гадоў назад (1919) у Мінску пачала выходзіць штодзённая газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку “Беларусь” (выдавалася да 9 ліпеня 1920 г.)

**25** 100 гадоў з дня нараджэння Буслава Казіміра Паўлавіча (1914 – 1983), беларускага філосафа, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

90 гадоў назад (1924) ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне аб выданні ў Беларусі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса “Полымя”

80 гадоў з дня нараджэння Шэрмана Карласа Рыгоравіча (1934 – 2005), беларускага перакладчыка, паэта, крытыка

**28** 130 гадоў з дня нараджэння Ждановіча Фларыяна Паўлавіча (1884 – 1937), беларускага акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра

**28-30** 75 гадоў назад (1939) у Беластоку адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі, які прыняў дэкларацыю аб устанаўленні савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі

**29** 60 гадоў з часу адкрыцця (1954) Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра (адкрыты на базе пераведзенага ў Магілёў Пінскага абласнога драматычнага тэатра)

**30** 70 гадоў з часу адкрыцця (1944) Улікова-крэдытнага тэхнікума ў Пінску (з 1997 г. Пінскі банкаўскі каледж, цяпер Палескі дзяржаўны ўніверсітэт)

**31** 80 гадоў з дня нараджэння (1934) Кокштыса Тадэвуша Антонавіча, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

***

**100** гадоў назад (1914) у Полацку адкрыта крама беларускіх кніг, заснаваная Канстанцыяй Буйло

**85** гадоў з часу выхаду (1929) штотыднёвай газеты для дзяцей і падлеткаў "Піянер Беларусі" (з 1994 г. "Раніца", з 2011 г. дадатак да "Настаўніцкай газеты")

**60** гадоў з часу рэарганізацыі (1954) Мінскага юрыдычнага інстытута ў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

**25** гадоў з часу стварэння (1989) Беларускага экзархату (Беларуская праваслаўная царква), кананічнага царкоўна-адміністрацыйнага аб'яднання праваслаўных епархій у межах Беларусі

**ЛІСТАПАД**

**1** 140 гадоў з дня нараджэння Вышалескага Сяргея Мікалаевіча (1874 – 1958), вучонага-эпізаатолага, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Расіі

**2** Дзень памяці

105 гадоў з дня нараджэння Лужаніна Максіма (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч) (1909 – 2001), беларускага паэта, празаіка, кінадраматурга, перакладчыка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, заслужанага дзеяча культуры Польшчы

75 гадоў назад (1939) 5-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з Беларускай ССР

**5** 75 гадоў назад (1939) у Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі адбылася прэм'ера першага беларускага савецкага балета "Салавей" М.Я. Крошнера

50 гадоў з часу адкрыцця (1964) у Мінску Цэнтральнага ўнівермага (цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "ЦУМ Мінск")

**6** 85 гадоў назад (1929) уведзены ў эксплуатацыю Мінскі радыётрансляцыйны вузел

40 гадоў з часу ўвядзення ў эксплуатацыю (1974) газаправода Таржок – Мінск

**7** Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі

95 гадоў з часу адкрыцця (1919) Гомельскага абласнога краязнаўчага музея

65 гадоў назад (1949) пачаў сваю работу Палескі абласны музей (цяпер Мазырскі краязнаўчы музей)

**8** 230 гадоў з дня нараджэння Нарбута Тэадора (Фёдара Яўхімавіча) (1784 – 1864), беларускага гісторыка, археолага, аўтара праекта Бабруйскай крэпасці

85 гадоў з часу адкрыцця (1929) у Мінску хіміка-фармацэўтычнай фабрыкі (цяпер у складзе рэспубліканскага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства “Белмедпрэпараты”)

**10** 265 гадоў з дня нараджэння Радзівіла Мацея (1749 – 1800), дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, кампазітара, драматурга

**11** 105 гадоў з дня нараджэння Заборскага Георгія Уладзіміравіча (1909 – 1999), беларускага архітэктара, народнага архітэктара СССР, заслужанага будаўніка Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння (1929) Сушчэні Леаніда Міхайлавіча, заолага-гідрабіёлага, эколага, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Расійскай акадэміі навук, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**14** 105 гадоў назад (1909) пачала выдавацца штодзённая грамадска-палітычная газета “Минский голос” (выходзіла да 30 лістапада 1918 г.)

75 гадоў назад (1939) 3-й (нечарговай) сесіяй Вярхоўнага Савета БССР 1-га склікання прыняты закон “Аб прыняцці Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі”

**16** 100 гадоў з дня нараджэння Семяжона Язэпа (сапр. Семяжонаў Іосіф Ігнатавіч) (1914 – 1990), беларускага перакладчыка, крытыка, празаіка, паэта

**19** 230 гадоў з дня нараджэння Баброўскага Міхаіла Кірылавіча (1784 ці 1785 – 1848), беларускага славіста, арыенталіста, даследчыка гісторыі славянскага кнігадрукавання, філосафа

**20** 115 гадоў з дня нараджэння Клімковіча Міхася (Міхаіла Мікалаевіча) (1899 – 1954), беларускага пісьменніка, крытыка, аўтара тэкста Дзяржаўнага гімна БССР

**21** 145 гадоў з дня нараджэння Стаброўскага Казіміра (1869 – 1929), беларускага жывапісца, педагога

100 гадоў з дня нараджэння Зімяніна Міхаіла Васілевіча (1914 – 1995), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі і СССР, Героя Сацыялістычнай Працы

**23** 105 гадоў з дня нараджэння Бульчыка Сяргея Сцяпанавіча (1909 – 1996), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

**24** 115 гадоў з дня нараджэння Ганчарыка Міхаіла Мікалаевіча (1899 – 1986), беларускага вучонага-біёлага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, пісьменніка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**25** 130 гадоў з дня нараджэння Кудрэвіча Уладзіміра Мікалаевіча (1884 – 1957), беларускага жывапісца, пейзажыста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Палякова Івана Яўцеевіча (1914 – 2004), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы

**27** 110 гадоў з дня нараджэння Звездачотава Мікалая Пятровіча (1904 – 1985), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

105 гадоў з дня нараджэння Паўлоўскага Фёдара Ілырыёнавіча (1909 – 1989), аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Палескай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**28** 105 гадоў з дня нараджэння Вейняровіча Іосіфа Навумавіча (1909 – 1998), кінааператара і рэжысёра, народнага артыста Беларусі

**29** 155 гадоў з дня нараджэння Янчука Мікалая Андрэевіча (1859 – 1921), беларускага, украінскага і рускага вучонага-славіста і пісьменніка, этнографа, фалькларыста, літаратуразнаўца, антраполага

**30** 115 гадоў з дня нараджэння Лынькова Міхася (Міхаіла Ціханавіча) (1899 – 1975), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі

***

**90** гадоў з часу выхаду (1924) 1-га нумару грамадска-публіцыстычнага мастацкага часопіса “Беларуская работніца і сялянка” (у 1931 – 1941 гг. меў назву “Работніца і калгасніца Беларусі”, у 1946 – 1995 гг. “Работніца і сялянка”, з 1995 г. “Алеся”)

**СНЕЖАНЬ**

**2** 140 гадоў з дня нараджэння Гайдукова Міхаіла Міхайлавіча (1874 – 1928), батаніка, пачынальніка альгалагічных даследаванняў у Беларусі

**4** 140 гадоў з дня нараджэння Альпяровіча Льва Абрамавіча (1874 – 1913), беларускага жывапісца

75 гадоў з часу ўтварэння (1939) Баранавіцкай, Беластоцкай, Брэсцкай, Вілейскай і Пінскай абласцей

75 гадоў з часу адкрыцця (1939) Брэсцкай мытні

55 гадоў з часу адкрыцця (1959) у Мінску літаратурнага музея Якуба Коласа (цяпер Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа)

**6** 115 гадоў з дня нараджэння Мардвінава Барыса Аркадзевіча (1899 – 1953), рэжысёра і педагога, заслужанага артыста Расіі, галоўнага рэжысёра Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР у 1947 – 1951 гг.

**9** 110 гадоў з часу ўтварэння (1904) Гродзенскага археалагічнага камітэта (існаваў да 1915 г.)

**10** 75 гадоў з дня нараджэння Белага Анатоля Яўхімавіча (1939 – 2011), беларускага грамадска-культурнага дзеяча, мастацтвазнаўца, калекцыянера, пісьменніка

**11** 80 гадоў з дня нараджэння Воінава Анатоля Аляксандравіча (1934 – 1995), беларускага архітэктара, гісторыка архітэктуры, педагога, заслужанага архітэктара Беларусі

**12** 35 гадоў з часу адкрыцця (1979) у Раўбічах музея беларускага мастацтва – філіяла Мастацкага музея БССР (цяпер філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь)

**16** 105 гадоў з дня нараджэння Кімберга Якава Мікалаевіча (1909 – 1993), акцёра, народнага артыста Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння (1939) Зьніча (сапр. Бембель Алег Андрэевіч), беларускага паэта, публіцыста, філосафа

**17** 90 гадоў з часу стварэння (1924) Беларускага дзяржаўнага ўпраўлення па справах кінематаграфіі і фатаграфіі (Белдзяржкіно) (у 1928 г. у Ленінградзе створана студыя мастацкіх фільмаў “Савецкая Беларусь”, з 1939 г. працуе ў Мінску, з 1946 г. мае назву “Беларусьфільм”, з 1997 г. Нацыянальная кінастудыя “Беларусьфільм”)

**20** 115 гадоў з дня нараджэння Царука Уладзіміра Зянонавіча (1899 – 1957), аднаго з аргнізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Баранавіцкай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза

**21** 115 гадоў з дня нараджэння Гусева Мікалая Іванавіча (1899 – 1965), беларускага жывапісца, графіка, педагога

100 гадоў з дня нараджэння Нісневіча Ізідара Герасімавіча (1914 – 1977), беларускага музыказнаўца, музычнага крытыка

80 гадоў з дня нараджэння Чыгрынава Івана Гаўрылавіча (1934 – 1996), народнага пісьменніка Беларусі

**22** 75 гадоў назад (1939) створана Гродзенская швейная фабрыка (цяпер адкрытае акцыянернае таварыства “Швейна-гандлёвая фірма “Элод”)

**23** 45 гадоў з часу пуску (1969) першага энергаблоку Лукомскай ДРЭС (будаўніцтва скончана ў 1974 г.)

**24** 230 гадоў з дня нараджэння Даленгі–Хадакоўскага Зарыяна Якаўлевіча (сапр. Чарноцкі Адам) (1784 – 1825), славяназнаўца, аднаго з пачынальнікаў беларускай, польскай, рускай, украінскай археалогіі, старажытнай гісторыі, фальклардыстыкі, этнаграфіі, дыялекталогіі

110 гадоў з дня нараджэння Дудара Алеся (сапр. Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч) (1904 – 1937), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка

**25** Ражство Хрыстова (каталіцкае)

180 гадоў з дня нараджэння Сілівановіча Нікадзіма Юр'евіча (1834 – 1919), беларускага жывапісца, педагога

170 гадоў з дня нараджэння Талаша Васіля Ісакавіча (1844 – 1946), удзельніка партызанскага руху ў Беларусі ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў

105 гадоў з дня нараджэння Шэлега Анатоля Рыгоравіча (1909 – 1988), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі

75 гадоў з часу выдання (1939) пастановы СНК БССР аб арганізацыі дзяржаўнага запаведніка "Белавежская пушча" (з 1991 г. дзяржаўная прыродаахоўная ўстанова "Нацыянальны парк "Белавежская пушча")

**26** 45 гадоў з часу прыняцця (1969) Вярхоўным Саветам БССР закона "Аб ахове помнікаў культуры"

**27** 95 гадоў з дня нараджэння Макаравай Галіны Кліменцьеўны (1919 – 1993), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР

40 гадоў назад (1974) уведзены ў эксплуатацыю электрафікаваны ўчастак Беларускай чыгункі Мінск – Барысаў

40 гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю (1974) 1-й чаргі Вілейска-Мінскай воднай сістэмы – галоўнага гідравузла і вадасховішча

**28** 95 гадоў з дня нараджэння Ігнаценкі Іларыёна Мяфодзевіча (1919 – 2002), беларускага гісторыка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**29** 80 гадоў з дня нараджэння Тарасава Віктара Паўлавіча (1934 – 2006), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР

**31** 110 гадоў з дня нараджэння Варвашэні Івана Дзянісавіча (1904 – 1957), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Мінскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны

***

**90** гадоў назад (1924) пачаў выдавацца часопіс для дзяцей і падлеткаў "Беларускі піянер" (у 1929 – 1941 гг. меў назву "Іскры Ільіча", з 1945 г. "Бярозка", з 2012 г. уваходзіць у склад часопіса "Маладосць")

**50** гадоў назад (1964) скончана будаўніцтва буйнейшага ў Беларусі рачнога порта Пхоў (на р. Прыпяць, каля г. Мазыра)